# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

НЯХАЙ ЖЫВЕ 1 МАЯ—
БАЯВЫ АГЛЯД
РЭВАЛЮЦЫЙНЫХ
СІЛ МІЖНАРОДНАГА
ПРАЛЕТАРЫЯТУ

1931
МАЙ
9





КАЛЁНА ПІЯНЭРАЎ

# ЗЬМЕСТ:

Міхась Чарот
ЛІРЫЧНЫ ЛІСТ
поэзія



Цімох Зарэчны
ВЫНАХОДЦА
апавяданьне



ДА ГАДАВІНЫ СЬМЕРЦІ Ў. У. МАЯКОЎСКАГА



В. Сташэўскі
З ЗАРНІЦАЙ ПЕРШАМАЯ І З ЗЬВЯЗДОЮ КАСТРЫЧНІКА — У ПАХОД ДА СОНЕЧНАЕ БУДУЧЫНІ
нарыс



А. Б.
ФАБРЫКАНТЫ ГРАМАДЗКАЕ ДУМКІ
нарыс



Язэп Дорскі
ЗАКОН СУПРАЦІЎЛЕНЬНЯ...
нарыс



Л. Клімчук
518...
нарыс



Сьцяпан Ліхадзіеўскі
СЫМБОЛІ БУЙНАГА ЎЗРОСТУ
верш



В. Пронін
ДЗЕСЯЦІГОДЗЬДЗЕ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ВАНДРОЎНАГА ТЭАТРУ
нарыс



Т. Кляшторны
ВАНДРОЎНАМУ ТЭАТРУ ПАД КІРАЎНІЦТВАМ ГАЛУБКА
верш



НА ХВАЛЯХ КАПІТАЛІСТЫЧНАГА СЬВЕТУ



ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

АДРАС РЭДАКЦЫІ: САВЕЦКАЯ, 59
ТЭЛ. № 17-09.

МАЙ 1931

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

9





ЛАД ЧЫРВОНЫМІ ШТАНДАРАМІ!

# Поэзія

## ЛІРЫЧНЫ ЛІСТ

### ВЕРШ МІХАСЯ ЧАРОТА

Таварышу Веры Харунжай.

Мы сьветлы Май
сьвяткуем урачыста,
а ты ня тут—
ў Савецкай Беларусі...
У гэты дзень
ружова прамяністы
сваімі думкамі
з табою падзялюся.

Як ты жывеш?

Ты мною не забыта,

хоць весткі ад табе
даўным-даўно ня маю.
Ў сваім лісьце
і шчырым і адкрытым
шлю прывітаньне
з Першым Маем.

Твае лісты,
я знаю, цэнзуруе
цэнзура жорсткая—
рука турмы фашыстых...
Таму ня пішаш мне
(і гэта я дарую)...
Як жывеш ты—
вядома мне ўсё чыста.

На мой-жа ліст
фашыстым не па сіле
сваё суровае
накласьці злосна veto...
Чытай яго,
хачу, каб быў ён мілым—
ліст комуніста
і поэта

. . . . . . . . . . . .

Мы разьвіталіся
чуць занімаўся золак...
Твае гады
прайшлі там ў барацьбе...
Жыцьцё надломана
ў цьвілых падвалах Вронак,
а я весь тут—
сьпяваю пра цябе.

Хоць песьняю
пакуль што будзь сагрэта
да верай моцнаю
ў Сусьветны Сьветлы Май...
Над ўсёй зямлёй—
разбуджанай плянэтай—
чырвоны сьцяг,
рабочы уздымай.

У вас, мы ведаем,
жывецца не салодка:
гімн правакатарам,
рабочым—катаваньне...
Пральецца кроў
вясеньняю паводкай
і ў гэты час—
сьветла-маёвым раньнем.

За словы вольныя
гніюць гадамі ў вязьнях...
Але гарацъ,
гарацъ мільёны помстай...
І хутка вораг наш
ў сваёй крыві угразьне,—
нас пабядзіць—
ня лёгка і ня проста.

У нас—інакшы сьвет,—
шкада, што ты ня з намі,—
да шчэнту зьмецены
мінулага агрызкі,
зьніштожаны
астатні панскі найміт,
што за наш хлеб
брахаў лісьлівым лыскам.

Суровая была
расправа з інтэрвэнтам,
на нас хто меч вайстрыў
у нашай-жа краіне...
Сваю магутнасьць
мы паказалі сьвету,—
СССР—
ніколі не загіне.

Заводы й фабрыкі
у нас цяпер—гіганты.
А вёска рушыла
самохаць у колгасы...

У горадзе—
ня ходзіць нэпмая франтам,
і кулака—
зьнішчаем мы як клясу.

Яшчэ нас радуе,
што з кожным днём і годам
сусьвету сіла—
брат наш—пролетары,
ідзе за нас,
з намі жыве ў згодзе,
сваім-жа ворагам
рыхтуе ён удары.

Ўсе спробы захаду,
ці дальняга усходу,
зрабіць на нас
ліхой вайны замеры,—
мы зьнішчым іх
магутнейшым паходам...
У гэта мы
заўжды і моцна верым.

Дык вер і ты,
што дзень той дужа блізка:
нявольнікі разбураць вязьняў краты,
агонь Кастрычніка
над цёмным сьветам блісьне...
Над ворагам
настане час расплаты.

. . . . . . . . . . . .

Цяпер бывай.
Сказаць хацеў-бы многа...
Адно даруй,
што ліст назваў лірычным...
Таварыш і сястра.
Я йду такой дарогай,
што гэта лірыка
мне больш ўсяго прывычна.

Ты мой настрой,
упэўнен, што адчуеш,—
адну і мэту мы,
адны жаданьні маем,
Таварыш мой.
Яшчэ чаго хачу я:
хутчэй пабачыцца
Сусьветным Сьветлым Маем.

# Вынаходца

АПАВЯДАНЬНЕ

## ЦІМОХА ЗАРЭЧНАГА

Малюнкі ДАВІДОВІЧА

... У першай палове хаты Астапа сустрэла Марыля—чарнавая і шустрая дзяўчынка. Яна сказала:

— Бацька ў бакоўцы нешта складае і перакладвае, корпаецца цэлы дзень.

І сапраўды, у хаце было дымна, пахла прымусам, у бакоўцы чулася шамаценьне. Астап адчыніў дзьверы і ўвайшоў у другую палову хаты. Антось замятусіўся, замешана адказаў на прывітаньне; відаць было, што ён незадаволены прыходам пастаронняга чалавека.

— Вось малайчына, што зайшоў,—гаварыў Антось, гасячы сьпірытусовую газоўку.

— Але чаму ты кідаеш працу?— запытаў Астап.

— Ай, брат, не гавары: цалюхтанькі дзень ламаю галаву... трэба адпачыць...

— Ён нават не палуднаваў,— сказала з-за дзьвярэй Марыля.

— Дзе тут палуднаваць, калі галава ходарам пайшла,—усьміхнуўся Антось, глянуўшы на дачку.—Ты вось цяпер вынь чаго-небудзь нам, бо хутка пойдзем на заняткі... Студэнты, ёлкі-палкі зялёныя... Ты таксама, напэўна, не палуднаваў?.—запытаў у Астапа Антось і, не чакаючы адказу, дадаў:—Ну, канечне, не да палудню на гуце... Такія справы... такая трывога, куды там...

Антось вышаў у пярэднюю палову хаты, і Астап застаўся адзін. Ахмяляючы пах сьпірытусу, гаркавасьць газы, едкі дым, пары бэнзыны і яшчэ нечага—усё гэта ахапіла Астапа, і ён няўтрымаўся, каб не адчыніць фортку. На стале-варштаце стаяла самадзелкавая самадуйка, напоўненая вадой, лямпа з падвойным прытокам паветры, хітра прыстасаваная Антосем для свае працы, мех для надуваньня паветра з доўгім хвастом—гумовай трубкай, апушчанай у пальнік, шклянкі, бутэлькі, колбы з невядомымі для Астапа вадкасьцямі—празрыстымі, што крынічная вада, мутнымі, што вада з балота, зялёнымі, сінімі, жоўтымі. На сьцяне вісела прылада, здаецца—газагенэратар для курбыраванага паветра (некалі тлумачыў Антось), таксама самадзелкавы, зроблены з банкі ад цукерак, і з бляшанае трубкі, у якую было ўлітавана дно з дзюркай пасярэдзіне, пяць сеткавых кружкоў і века, у дзюркі былі ўлітаваны бляшаныя трубкі, на іх надзеты гумовыя—гэтыя трубкі злучалі генэратар з пальнікам. Астап глядзеў на ўсе гэтыя прылады і зьдзіўляўся: „Як у яго хапае цярплівасьці сядзець у чадзе, у дыме, ламаць галаву над нечым, магчыма ўжо вырашаным некалькі дзесяткаў год таму назад? Што яго прымушае, кінуўшы працу, бегчы да хаты — ня ў ложак, не пад коўдру, а да сваіх прыладаў, інструмантаў, вышукваньняў? І, цікава, што ён вышуквае тут,— чаму не параіцца з інжынэрам Сакалоўскім ці з Настай.



Ен усё так-жа з захапленьнем працаваў...

Лёгкія крокі Марылькі з дзьвума талеркамі ў руках спынілі разважаньні Астапа. За Марыляю ў пакой увайшоў Антось—бяз копаці на твары, у чыстай сарочцы (толькі што памыўся і зьмяніў бялізну). Ён запрасіў Астапа па палуднаваць разам з ім.

— Нам-жа давядзецца гадзін да адзінаццаці быць на занятках, а ў дванаццаць трэба на працу ісьці, — калі там вячэраць?

— Чаму-ж Марыля не палуднуе? — запытаў Астап.

— А што, вас буду чакаць?— засьмяялася яна і выбегла на кухню.

— Шустрая дачка ў цябе,— сказаў Астап.

— Во-о-о, яна, брат, добрая ў мяне!.. Гадую некаму нявесту.

— Вучыць трэба.

— Яна-ж вучыцца! Толькі што з сямігодкі прышла. У шостай клясе ўжо.

— Глянь ты, хутка сямігодку скончыць!

— Дзеці пойдуць не па бацькавых сьлядох. У іх зусім другія дарогі. Куды там, што раўнаць! Гэта я, вось, у маладосьці старасьцю жыў, а цяпер да маленства іду... маладзею... як быццам круг які.., Толькі вось, шкада, што ён хутка зачыніцца... А не ахвота яшчэ... Хочацца неяк пашырыць яго, павялічыць дыямэтр кругу, адкінуць наперад пункт злучэньня дзьвух ліній...

Антось сьмяяўся, жартаваў, і абед праходзіў па-сяброўску, няпрыкметна. Але ў гэтай няпрыкметнасьці можна было заўважыць: хавае нешта—яму толькі вядома—затоенае і глыбокае—Антось. Гаворыць ён, сьмяецца,—жартуе пра гуту, з суседзяў сваіх, над хваляваньнямі Астапа (бачыць вока старога, што на сэрцы маладога), але ўсётакі Астап адчувае: ня выказвае нечага Антось, трымае ў тайнікох розуму думку сваю—магчыма пра яго, Астапа, работу, паводзіны, магчыма зусім пра іншае, але важнае і маючае дачыненьне да Астапа. І нельга знайсьці ўзаемнага разуменьня і ўзгодненасьці,— захаванасьць Антося стварае напружнасьць і няшчырасьць: словы старога выклікаюць у Астапа трывожныя думкі і нацягненасьць. Бачыць стары нездавальненьне маладога і ведае прычыну яму,— але што ён можа зрабіць: расказаць, паказаць пра баламутную думку сваю, першыя няўдалыя спробы ажыцьцявіць яе, расчыніць душу на распашку?— а сьмех? а кпіны? а зьдзекі?— Людзі вельмі моцна прырасьлі да зямлі, і часам за гразкасьцю ня бачаць небасхілу,— многія кратамі сьвідруюць зямлю, думаюць: новыя землі адчыняюць,— многія проста чарвякамі поўзаюць па гразі. Расказаць, паказаць шмат чаго цяжка самому сабе,— а другому, хоць-бы лепшаму другу, самаму блізкаму чалавеку?..

... Ёсьць на сьвеце белым—за буянымі—(у павадках)—рэчкамі, за суровымі—(да самага неба)—горамі, за бурапеннымі—(у штормах і навальніцах)—марамі,— ёсьць разрыў-зельле—трава, імя якой — сьмерць. Хочаш знайсьці, адшукаць, — чорнай, бы здрада, ноччу, калі на небе—ні месяца, ні зор,— ідзе ў непраходную пушчу—ярвамі, кутаярамі, цераз бярлогі,— адшукай гняздо вожыка,— абарві траву вакол гнязда, абгарадзі яго колікамі,—сам схавайся пад вецьце дуба,— чакай! Прыдзе вожык, паглядзіць, абнюхае, і кінецца шукаць разрыў-зельле, каб разбурыць загарадку, раскінуць астрожныя краты, вызваліць сваіх дзетак. Стой пад дубам, не кранiся!— вожык прынясе зельле, кіне на загародку,— загарадка разьляціцца ва ўсе бакі. Бяжы да гнязда, шукай зельле,— ранку зрабі на руцэ,— нажом парэж руку, — пакладзі на сьвежую кроў разрыў-зельле,— ранку закрый падарожнікам з растанцоў. Зажывае рука, загоіцца:

*) Урывак з аповесьці „Гулы гуты".

возьмеш ёю жалеза—растопіцца яно ў руцэ, возьмеш чалавека, трасца ахопіць яго, датыкнешся да ворага—сьмерці яму не мінаваць. Хадзі тады, ламай, крышы—нечысьць, погань, кратоў чалавечай пароды—за марамі ў бурах, за гарамі ў небе, за рэчкамі ў ліхаманкавай буянасьці,— хадзі крышы, ламай—па ўсім белым сьвеце!..

Ціха ў пакоі. Шкляная цішыня. У Антося падкасіліся ногі, рукі апусьціліся на калені. А потым перапужаны голас Астапа:

— Што з табой, Антось? Галава? Вады, вады, Марылька! Вожыкі? якія вожыкі? Разрыў зельле? Прыляж на канапу... вось так!.. Падушку, Марылька! ня плач! Глупства! Зараз пройдзе.

Ціха ў пакоі. Цікае гэдзіньнік. Чутна няроўнае дыханьне Антося. Ён ляжыць на канапе,— левая рука яго—на ўпалых грудзях, правая—худымі пальцамі чапляецца за падлогу. Астап сядзіць каля ўзгалоўя, рукой падтрымлівае галаву старога. Валасы на галаве Антося—мяккія, шоўкавыя. На скронях відаць сівыя валасінкі. Твар бледны, з маленькай бародкай і рэдкімі вусамі. На правай шчацэ відаць чарнявая радзімка.

Марылька бегае—то за вадою, то за падушкай, то за ручніком;— яна хусьцінкаю выцірае вочы.

— Ня плач, Марыля,— угаварвае дзяўчынку Астап—нічога ня здарылася... бацька зараз-жа ўстане... Проста замарыўся чалавек.

— Ён як прышоў, так і сеў за свой стол.

— І нават ні на хвілінку ня прылёг?

— Я прасіла яго, каб ён адпачнуў крыху, але ён ні за што не згадзіўся,

— Ой, стары, ой, стары! Ноч працаваць на гуце, а потым дзень вазіцца са сваімі шклянкамі? Куды гэта варта?

— Я-ж гавару заўсёды...

— Яму трэба ўзяць адпачынак, на курорт паехаць...

— Скажыце яму; угаварыце яго...

— Паехаць на курорт, пабыць там месяц, а потым і за шклянкі ўзяцца... Не ўцякуць...

Стары закашляў, павярнуўся на правы бок, адчыніў павекі ласкавых сваіх вачэй. Погляд яго быў спакойны, сьветлы, здавалася, што з ім нічога ня здарылася, проста замарыўся чалавек і прылёг на гадзіну адпачыць. Астапу захацелася песьціць гэтага старога чалавека, ласьціць яго слабае цела, гладзіць яго шаўковыя валасы, гаварыць яму самыя мілыя, самыя пекныя словы. У ім было ў гэты момант нешта дзіцячае—непасрэднае і шчырае; здавалася, што ён сьвеціцца дабратою і радасьцю, што ён лёгкі, як пух, і чысты, як крышталь.

— Вось і прайшло,— ціха ўсьміхнуўся Антось.

—... Прайшло,— уздыхнуў Астап.

Марылька стаяла каля канапы, рукою гладзячы галаву бацькі. Калі загаварыў ён, яна ўглядзілася яму ў вочы і спытала:

— Цяпер будзеш адпачываць, тата? Паедзеш на курорт?

— Так, дачушка, так... Толькі ня сумуй па мне,— я здаровы, дужы.

— І цяпер, калі прыдзеш з працы, ляжаш спаць.

— Так, дачушка, бяз сну неяк ня выходзіць.

— Ты праўду, тата, кажаш?

— А можа і хлушу...—усьміхнуўся Антось.

— Я-ж ведаю, што ты заўсёды хлусіш...—засьмяялася і Марыля, хусьцінкай выціраючы сьлёзы,— ня з суму цяпер, а з радасьці.

Яна вышла ў пярэднюю палову хаты; Астап з Антосем засталіся адзін на адзін.

— Ты ўмееш маўчаць?— ціха спытаў Антось у Астапа.

— Як гэта маўчаць?— зьдзівіўся той.

— А вось так... як табе сказаць... вайсковую таемнасьць можаш захаваць?

— А што ў цябе вайсковае можа быць?

— Чаму ты думаеш, што ня можа быць?

— Я, здаецца, не сказаў так?

— Ня важна, як сказаў, але таемнасьць умееш захоўваць?

— Я наогул супроць усякіх таемнасьцяй, але калі справа патрабуе гэтага, чаму-ж не захаваць?

— А калі ня справа, а толькі адзін чалавек?

— Хіба адзін чалавек ня можа зьяўляецца часткай вялікай справы?

— Гісторыю-ж ня робяць асобы?..

— А хто калі не яны? Адна асоба ня можа рабіць гісторыю, а сотні, тысячы, мільёны?

— Вось што, Астап,— узьнімаючыся з канапы, замест адказу пачаў Антось,— у мяне зьявілася вар'яцкая думка... мне здаецца, што табе можна сказаць...

— Нашто-ж такі вялікі ўступ? Гавары, я—што камень...

— Ты бачыў калі-небудзь, як б'ецца посуд? як крышыцца шкло? як на дробныя кавалкі разьлятаюцца бутэлькі, банкі, колбы. Я памятаю ў дваццаць першым, здаецца, калі яшчэ працаваў у нас за „спэца" Канабрыкін Тарас,— многа посуду папсавалася. Вымуць з каляніцы бутэлькі ці што іншае, пачнуць укладваць, а яны—бух! бух! бух!— разьлятваюцца ў пыл. Канешна, гэта была справа рук Канабрыкіна, хоць і ня было тады поўных доказаў для гэтага,— хітра працавала ў яго галоўка. Ён гаварыў тады, што ведае сакрэт, каб ня білася шкло; і, канешна, часам яно выходзіла цэлае,— ён тады ганарыўся сабой і кожнаму паказваў: „Паглядзі на шкло маёй работы,— як звон, як крышталь! Лепшага нідзе ня знойдзеш! Я ведаю ўсе сакрэты! А вы што!— гліну мясіць вам, а ня посуд вырабляць!" У яго тады была свая лінія, мы яе зламалі, але я не пра гэта. Месяцы два таму назад я сказаў інжынэру Сакалоўскаму, што ў нас адзін рабочы хоча вынайсьці такое шкло, каб яно зусім ня білася... Разумееш, Астап,— бярэш колбу, раняеш яе на падлогу, а ёй хоць-бы што—толькі глуха пазваньвае... ці напрыклад, робіш апарат далікатны—для аптэкі, для навуковай лябараторыі, і не баішся, што танюсенькія трубачкі лопнуць і разаб'юцца... Шкло будзе—што бляха, толькі празрыстае, такое, як цяпер.. Гэта будзе цэлы пераварот,— шкло зойме першае месца сярод мэталяў і мінэраляў... Цяпер нават цяжка ўявіць усе магчымасьці яго скарыстаньня. Інжынэр сказаў мне, што, каб гэта рабіў я, то ён параіў-бы мне кінуць гэту справу, а калі вынаходзіць такое шкло нехта другі, то і няхай на здароўе дарма траціць час... Я сказаў, каб хто дапамог рабочаму, ён можа і вынайшоў-бы такое шкло. Інжынэр адказаў мне на гэта, што ў вынаходніцтвах патрэбна свая ініцыятыва, свае разьлікі,— дапамога будзе толькі перашкаджаць, затрымліваць работу і пэўных вынікаў ня дасьць. На гэтым мы разышліся. Я адчуў тады, што ў інжынэра ёсьць нешта сваё ў галаве,— на яго, відаць, павеяў сьцюдзёны вецер. Больш яму не напамінаў пра гэта, і ён, калі сустракаўся са мной, то нейк бокам абыходзіў мяне. Канешна, я ня бачыў у гэтым нічога дзіўнага...

— Але хто-ж гэты рабочы?

— А ты не здагадаўся?

— Ты?..

— Мне здаецца, што я проста табе гаварыў...

— Ну, і як у цябе пасоўваўцца з гэтым?

— Дрэнна, і нічога ня бачу ў пэрспэктыве.

— Хоць што, небудзь ды відаць?

— Я дасягнуў толькі таго, што зьменшыў крохкасьць шкла.

— Якім-жа чынам?

— Простымі сродкамі: бяру шкло, гатую яго ў вадзе ці ў масьле, а потым астуджваю ў гэтай-жа вадкасьці. Яно як-бы загартоўваецца, і рэдка калі трэскаецца.

— Але-ж гэтага мала... Дый гэта, здаецца, было вядома...

— Я ведаю,— трэба нешта другое, гэтага не хапае...

— Што-ж тут таемнага?

— Вось я і пужаўся гэтага... Ты зусім па інакшаму глядзіш...

У голасе Антося чулася нездавальненьне. Астап засьпяшаўся запэўніць старога:

— Ні слова, ні гука, Антось!.. Але трэба каго-небудзь папрасіць дапамагчы...

— Ніхто мне не патрэбен!— з яўным нездавальненьнем прабурчаў Антось.— Каго папрасіць: Сакалоўскага ці бабу тую канабрыкінскую? Сакалоўскі—хітрая лісіца, зьвярок для самаго сябе... Баба—ну, канешна, я ня супроць баб, але вельмі яна ўжо млосная... Мне думаецца,—не да гэтага ёй... у яе заўсёды сіне пад вачыма... Ну, яшчэ каго? Дырэктара нашага? Дык гэта ўжо, бязумоўна, цэтрабаба.., ні богу сьвечка, ні чорту качарыжка... Ні нашым, ні вашым... Ня жыве, а пад небам плесьнее...

— Ну, досыць, досыць,— чырванеючы да самых вушэй,—гаварыў Астап.

— Трэба на заняткі ісьці... Бачыш—палова шостай...

— Правільна, палова шостай,— устаючы з канапы, сказаў Антось.— Толькі галава ў мяне кружыцца, быццам з пахмельля...

— Кладзіся і адпачывай... Ні куды ня трэба ісьці...

— Як гэта?

— Ты-ж ня спаў цэлую ноч!

— Ну, і што-ж з таго? Старому зусім можна ня спаць...

У пакой увайшла Марыля і пачала ўпрашваць бацьку ня ісьці на заняткі. Астап падтрымліваў яе, гаворачы, што сёньня на рабфаку новага нічога ня будзе, будуць толькі паўтараць пройдзенае. Антось нехаця згадзіўся.

— Я-ж павінен быць інжынэрам, а вы мяне ня пушчаеце!— жартаваў Антось.— Каму якая справа, што мне пяцьдзесят два гады?— я яшчэ другому маладому ногі за патыліцу закладу...

Астап разьвітаўся, вышаў з хаты. Дзень скончыўся, пачынала цямнець. Шэрасьць паветра і гразкасьць вуліцы зьліваліся ў адну суцэльную дрыгву. Пахла балотам, цела пранізвала вільгаць, недзе ў небе гагаталі гусі. Па вуліцы плыў мужык на калёсах—калматы, з шырокай барадой; каняка яго булдыхаўся па гразі да самога пуза, калёсы танулі каткамі і тральнёй у гразь,— здавалася—не на калёсах, а саломе сядзіць мужык, на саломе едзе па гразі, быццам на плыце па рэчцы.

Астап спыніўся на мгненьне, глянуў на небасхіл, на неба, на мужыка, а потым шпаркімі крокамі пашоў на заняткі...



ДА ГАДАВІНЫ СЬМЕРЦІ У. Ў. МАЯКОЎСКАГА



# З ЗАРНІЦАЙ ПЕРШАМАЯ і з зьвяздою Кастрычніка — у паход да сонечнае будучыні

Нарыс

В. СТАШЭЎСКАГА

У МЯСТЭЧКУ яшчэ спалі, калі сонца ў сваім сэзонным убраньні выходзіла на сьвята. Яно паступова пачало аглядаць мястэчка. І першае, з чым сустрэлася сонца, гэта была будаўнічая вышка з чырвонаю гвяздаю ўверсе. І дзіўна, у сярэдзіне ў гэтай гвязьдзе гарыць агонь. А Ясіноўскі цьвёрда наказваў сыну Лаўрыку: „Там яны паставілі ліхтар у гвязьдзе, цупнеш трапна, дык яна і пойдзе дымком". Лаўрыку не хацелася. Яму страшэнна падабалася гэтая высокая гвязда на іх агародзе. Але наказ бацькі, гэта ня чмыханьне шэрага ката. Вышаў вечарам хлапец з хаты, а каля вышкі гарыць касьцёр. Стораж пільнуе матэрыял. Гвязда сьвяцілася ўсю ноч і як бачыце спаткалася з сонцам.

Вітаньне табе, Будаўнічая Гвязда.

Вітаньне табе, Першамайскае сонца.

Прачыналіся людзі, хадзілі па дварэ, па вуліцы. Бразгала сярод мястэчка помпа арткалодзежа. Ня брытыя беглі да цырульніка, каб „заднім чыслом і ходам" пагаліцца.

Ніхто не прачнуўся, ня вышаў на вуліцу з хаты Лейбы... Ды гэтага амаль ніхто не заўважаў.

Працоўнае мястэчка гуртавалася па сваіх організацыях.

Колгасьнікі тупаюць па дварэ, дастаюць плугі, выводзяць коняй, запрагаюць. А на перадзе добрая каламажка з дышлем і запражана пара коняй.

А Сайка Балагол тыц сюды носам.

— Гэрст? (чуеш) — што вы пазапрагалі плугі? Сёньня-ж сьвята.

— Няўжо сьвята — нібы ўсур'ёз пытае Аляксей.

— Ну сёньня-ж Першамай.

— Што-ж ты, Ціхан, нарабіў? — кажа далей Аляксей.

А Ціхан усьміхаецца ў свае парыжэлыя вусы.

— Ну, ужо раз сабраліся, дык выпрагаць ня будзем. Паедзем.

Аб адзінаццатай гадзіне раніцы пачаўся рух організацый. Першымі зьявіліся на плошчу беларуская і яўрэйская сямігодка. Цёплы дзень апрануў дзяцей у лёгкае адзеньне. Колам разнакаляровых кветак абвілася трыбуна. І зьвінела плошча новым звонам, звонам яснай Першамайскай раніцы.

Падыходзілі профсаюзныя організацыі, комсамол, арцелі, пажарнікі. Апошнія заўсёды з оркестрам. Бедныя музыкі. Хоць іх на аднаго і прыбавілася, значыць стала пяць, але калі наблізіўся саўгаскі трактар, дык і заціснуў іх музыку. Раве „акаянны" па бруку, ня толькі шыбы ў вокнах, а сьцены дрыжаць. Усе павярнуліся ў той бок, адкуль чуваць гул трактара, а тут з другога боку валіць да трыбуны новая калёна. А гэта хто.

Глядзі, глядзі! Гэта-ж нашы!

На каламажцы, на пары коняй ехаў Ціхан і старшыня сельсавету. Ціхан трымае сьцяг, а за каламажкаю шэсьць пар коняй у плугох.

Вось гэта новая калёна прыцягнула ўвагу ўсіх. Оркестр спэцыяльна для яе сekануў марш. Начальнік Райміліцыі — камандуючы парадам, паказаў месца. Выстраіліся. Ціхан ня ведаў, што яму рабіць, як яно, значыць, палагаецца: сядзець на каламажцы ці зьлезьці. Іншыя колгасьнікі таксама ня ведалі, дзе ім стаяць: ці за плугамі, а коні наперадзе, ці стаць наперадзе коняй. Тут выручыў старшыня сельсавету. Ён падбег да трыбуны і там запытаў у камандуючага:

— Ясна, што людзям трэба стаць наперадзе, — адказаў той.

Так старшыня і перадаў Ціхану:

— Ясна, што наперадзе стаяць людзі.

З Ленінскае вуліцы выходзіла калёна саўгасу.

Наперадзе на конях: дырэктар, сакратар парт. ячэйкі, старшыня рабачкому.

У сярэдняга ў руках сьцяг. Далей група рабочых і служачых з плякатамі. На адным з іх: „Братняе вітаньне колгасу Комунар“. За людзьмі лапоча трактар і кіруе гэтым трактарам на дзіва ўсім—жанчынам. А за трактарам нешта з дваццаць пар коняй з плугамі і драпакамі. Колгасныя коні натапырылі вушы. Слухаюць як гудзе трактар. Але побач сталі саўгаскія коні. Заспакоіліся колгасныя.

— Вось гэта дык выезд,—заўважыў Аляксей Ціхану.

— Пачакай, калі пашырымся і замацуемся, дык і ў нас выйдзе ня горай.

Аляксей хітры, ён сам ведае гэта, а пытае, каб падагрэць Ціхана.

А неорганізаваны „элемэнт“ з двух бакоў абгарнуў трактар. Кожны плішчыцца наперад. А трактар ідзе, цісьнецца, таўчэцца „элемэнт“.

З другіх канцоў мястэчка падыходзілі вучні і сяляне суседніх вёсак.

Лёгенькі вясеньні ветрык шавеліць сьцягі на трыбуне, у руках школьнікаў, жыжкі ў грывах коняй. А сонца рассыпае мяккія ласкавыя праменьні.

Узьвівайся-ж, песьня піонэрская.
Комсамол вышэй свой сьцяг уздымай.
Вітаньне сьвяту працы.
Вітаньне Першамаю.

Скончыўся мітынг.

Калёны пайшлі па мястэчку. Песьні, музыка, гул трактара зьліваліся ў такі акорд, якога нідзе ніякі музыка віртуоз ня мог узяць на сваёй скрыпцы. Міхель стаіць з боку. Акорды шчыплюць яго сэрца. Вочы напаўняюцца сьлязьмі. Ён нікуды, здаецца, ня думаўісьці. І вось сам ня прыкмеціў, як бурлівая хваля захапіла яго і памчала. Апамятаўся тады, калі дэмонстрацыя наблізілася па вуліцы, да яго дома. Спыніўся з боку.

— Валі, Міхель, далей—голас Віктара.

— Станавіся сюды—гукнуў Іван Падзёньнік.

І Міхель паплыў.

Вось арка на будаўніцтве комбіната. Праз яе ў момант напаўняецца былы агарод Ясінаўскага жывымі кветкамі.

Ніколі так не расквіталі ня агародзе макі.

Ніколі так высока над мястэчкамі ня ўздымалася гвязда, як цяпер на вышцы социялістычнае будовы комбінату.

Закладка зроблена.

Калёны рушылі на мост і па грэблі выходзілі ў поле.

Падымаліся на горку.

Трапыхае вясна крыльлямі, звонам жаваранкаў, усьміхаецца пупышкамі і сочнымі лісточкамі на дрэвах і расьцілае на лугох іскрыстыя дываны.

А калёны з грохатам і песьняй падымаюцца на горку.
Як добра быць у такіх радох.
Як лёгка падымацца на гару.

А паглядзеце вы на твар, сур'ёзны твар Ціхана. Ён бышцам ружыцца, а радасьць з перапоўненых грудзей яскрава прабіваецца і разганяе маршчыны—след ліхой мінуўшчыны.

Вось колгасная зямля. Два слупы і плякат:

„Шырэй колгасныя рады. За социялістычную гаспадарку. Няхай жыве КП(б)Б“.

Падышлі калёны. Наперад выходзіць трактар. Ціхан перадаў сьцяг старшыні сельсавету, а сам узяў у рукі невялічкі сьцяг.



Пабудова дзіцячых ясьляў на 50 дзяцей у колгасе „Чырвоны спэцыяліст“.



**Лепшая ўдарніца колгасу „Чырвоны спэцыяліст“ тав. Лішай за працай.**

Маленькая паўза.

Ціхан махнуў сьцягам і трактар, а за ім параконныя аратыя рушыліся.

Праходзяць аратыя. А вось і Мотка Кучар за плугам.

— А ну, ну, цікава. Як будзе араць Мотка.

Мотка пачуў гэта і ўсьміхнуўся. Ён за тыдзень перад гэтым добра вывучыў усю „арацельную арытмэтыку“ і цяпер цьвёрда і ўпэўнена трымаў плуг у баразьне.

Пайшлі ўпоперак разрэзваць вузкія загоны, межы. У вачавідкі зямля ўздымалася пульхнаю ральлёю. А нехта з натоўпу выгукнуў:

— Глядзеце, бачыце: зямля зьмяняе колер, а межаў не спазнаць.

А хтосьці пад лопат трактара адказвае: бо пайшла па полі колгасаў баразна.

Дэмонстранты групамі разышліся па полі, лузе, частка накіравалася ў лес. Найбольшая група дарослых, разам з кіруючымі асобамі раёну, накіравалася на тую лінію, якая вызначала простую дарогу праз балота, рэчку і злучала колгаснае поле з комбінатам і мястэчкам. Абмяркоўвалі надыходзячыя мэліорацыйныя работы. Гэта было фактычна першае масавае абгаварэньне вельмі цікавых будаўнічых работ цяперашняга сэзона.

А школьнікі на сухім лузе—пчаліны рой. З імі і оркестр. Кружацца ў карагодах сонечнае вясны і маладосьці.

Аратыя працавалі ў полі каля паўтары гадзіны. У вызначаны час трактар даў гудок-сыгнал збора. З розных канцоў пачалі зьбірацца дэмонстранты. Каля аркі зноў выстрайваюцца калёны. А трактар знарок прайшоў праз поплаў і паказаў як можна рэзаць зацьвярдзеўшую цаліну. Вось ён накіраваўся да аркі, а за ім і ўсе аратыя.

Праз невялікі час мястэчка зноў напоўнілася гулам, песьняй, гімнам сьвяту вольнай працы, сьвяту Першага Мая.

З поля зварачалася ня трынаццаць колгасьнікаў, а сямнаццаць. Гэтых чатырох ніхто ня ведаў. А выявіліся яны тады, калі колгасьнікі адпрагалі коняй.

Прышлі і заявілі: — Прымеце хіба і нас!

**Друк адзіны сродак, пры дапамозе якога партыя штодзенна, шточасна гутарыць з рабочай клясай на сваёй, патрэбнай ёй мове.**

**(Сталін).**

# ФАБРЫКАНТЫ ГРАМАДЗКАЕ ДУМКІ

Нарыс А. Б.

У старадаўняй кнізе Ібн-Эзра ёсьць разьдзел—дыялёг між арабскім ваенным начальнікам і вучоным. Начальнік кажа:
— Вялікі сьветач Усходу. Ня трэба хадзіць да мяне з чорнага ходу, ты можаш наткнуцца на грубіянства маіх чалядпікаў, ты можаш пасьлізнуцца і ўпасьці ў яму.

— О, храбры чалавек!—Я ня люблю галоўнага ўваходу, там так многа штучнага сьвятла, што я нічога ня бачу. Сьлепнуць мае вочы ад бляску дыямэнтаў; я лепш намацаю шлях у цемры, там сходкі, на якіх жыцьцё праводзіць усе свае дні і ночы.

На гэта быў адказ:

— Людзі закапалі ў зямлю карані, схавалі іх ад вачэй, каб захапляліся толькі пышным лісьцем. Глядзець на карані небясьпечна. Ад гэтага часу я зачыняю чорны ўваход. Туды ніколі нікому ўваходу ня будзе.

Гэтую мудрасьць надзвычай добра ўцяміў буржуазны друк. Буйнейшыя газэтныя консорцыумы, падпісваючы дагаворы з журналістамі першага рангу, упісваюць пункт: ніякіх мэмуараў, ніякіх дзеньнікаў журналісты не павінны весьці; свае ўспаміны яны ня маюць права агалашаць раней 25 год пасьля таго, як яны пакінуць працу ў гэтым выдавецтве.

Чорны ход шчыльна зачынен. Журналіст буржуазнага друку ня мае аніякага права выказваць у газэце тое, што ён уласна думае, калі гэта хоць на адну сотую частку градуса адхіляецца ў бок ад агульна-прынятых буржуазным сьветам поглядаў і норм.

У 1927-28 г. г. былі ўведзены новыя мерапрыемствы, якія лепш гарантавалі пасьпяховае разьвіцьцё англёсаксонскай культуры. Уведзены былі цялесныя пакараньні за крымінальныя і палітычныя злачынствы ў Індыі, Эгіпце і Аўстралійскім штаце Новы Паўднёвы Уэльс. Сындыцыраваны ангельскі друк вітаў гэтую вестку, як вялікі крок наперад па шляху да прогрэсу. Якаясьці група журналістаў хацела паставіць гэтае пытаньне ў „дыскусійным парадку". Але група належным чынам была папярэджана, што франтавым байцам забаронена займацца дыскусіяй, палітыкай, мітынгаваньнем. Яны павінны ўсё прымаць згодна службовае пісулькі галоўнага рэдактара, або—як дадаў Ротэрмір—уласьнік ледзь ці не паловы ангельскіх газэт—як была прынята біблія на гары Сінайскай.

Характэрна, звычайна ў Англіі было багата „журналістаў-вандроўцаў". Яны пераходзілі ад газэты да газэты, як ландскнэхты ад аднаго фэўдальнага князька да другога. Цяпер гэтыя журналісты запісваюцца ў чорныя сьпіскі; калі цябе звольнілі з аднае рэдакцыі, для цябе ўжо назаўсёды зачынены ўваход у якую-небудзь рэдакцыю.

Раней газэта была ўласнасьцю аднаго гаспадара. Колькі газэт—столькі і гаспадароў. І журналістыя найманіся ад аднаго гаспадара да другога. Цяпер існуюць газэтныя сындыкаты, якія абвясьцілі суровую вайну богэме. Нам патрэбны, — кажуць яны,—дысцыплінаваныя салдаты. Рэдакцыя — акоп, перадавая лінія агню. У акопах за ўжываньне віскі баец караецца бязьлітаснай рукой вайсковага статуту. І вось, у буйных газэтных консэрнах зьявіліся жаргонныя тэрміны „вэйт" і „дрэйт"—мокры і сухі. „Сухія"—на сур'ёзнай адказнай працы, у сэнсацыйных аддзелах. „Мокрыя"—ландскнэхты другога рангу.

І вось, аднойчы бомбай выбухнула гісторыя з першаранговым журналістам самай распаўсюджанай амэрыканскай газэты „Уорльд".

Хэйвуд Браун лічыўся на працягу многіх год адным з самых выдатных публіцыстаў амэрыканскага буржуазнага друку. У кожным нумары газэты абавязкова друкаваўся артыкул Брауна. І раптам, на працягу некалькіх дзён чытачы, шукаючы ў газэце на заўсёдным месцы артыкул Брауна, чамусьці не знаходзілі яго. Праз тыдзень у газэце зьявілася паведамленьне дырэкцыі газэты, што рэдакцыя „Уорльд", верная традыцыям лібэралізму і дэмократыі, захавала за сабой права мець рашаючае меркаваньне аб тым матэрыяле, які друкуецца на яе старонках і таму рашыла разьвітацца з Хэйвудам Браунам, які не пажадаў лічыцца з гэтымі „традыцыямі".

— У чым справа?—дзівіўся чытач.—Што за „традыцыі" і ў чым заключаецца злачынства Хэйвуда Брауна?

Аказалася, што Браун дазволіў сабе выступіць у газэце ў абарону Сако і Ванцэці і адначасова выказаў сваю агіду да іх катаў.

Кляса ідзе на клясу і кляса капіталістаў ня можа дазволіць нават нікому са сваіх прыхільнікаў, каб хоць на хвіліну адхіліцца ў бок ад інтарэсаў капіталістычнай сыстэмы.

Некалькі год таму назад у Швэйцарыі адбывалася ўпартае змаганьне між прыхільнікамі і працаўнікамі збожжавай монополіі, якая захавалася яшчэ з часу вайны.

Д-р Лаур, адзін з прыхільнікаў захаваньня монополіі, агаласіў ліст, атрыманы ім ад аднаго швэйцарскага выдаўца, у якім апошні паведамляе, што колы, зацікаўленыя ў скасаваньні монополіі, прапанавалі яму вялікі гонорар, калі ў сваёй газэце ён будзе пропагандаваць іх пляцформу. Аднак, выдавец даў-бы лепш старонкі сваёй газеты прыхільнікам монополіі, каб атрымаў ад іх адпаведны „гонорар". Абураны д-р Лаур ганьбаваў „прадажнасьць" друку.

Працаўнікі монополіі, зразумела, катэгорычна адхілілі прадзівасьць гэтага ліста. Ня менш абурыліся газэты, якія нават ухвалілі протэст супроць абагуленага абвінавачваньня. І Лаур... пасьпяшыў адразу заявіць, што ў яго няма ніякіх падстаў абвінавачваць увесь друк у прадажнасьці...

Быў і такі выпадак. Нябожчык Штрэзэман неяк прагаварыўся ў парляманцкай камісіі па замежных справах, што ўжо больш году, як былая Стынесаўская газэта „Deutsche Allgemeine Zeitung" куплена ўрадам.

Для шырокіх палітычных колаў гэта зьявілася нечаканасьцю і сапраўднай сэнсацыяй. Але найбольш цікавым у гэтай гісторыі зьяўляецца тое, што на наступны дзень рэдакцыя газэты агаласіла на першай старонцы заяву, у якой сьцьвярджала, што дагэтуль яна нічога ня ведала аб продажу газэты.

Бедныя рэдактары і супрацоўнікі! Іх прадалі, гэтак кажучы, завочна... Хоць, праўда, якая розьніца ім, які гаспадар ім грошы плоціць. Хіба зьмяніўся з гэтае прычыны напрамак газэты, ці ідэолёгія яе. Як і пры ранейшых гаспадарах, газэта сумленна служыць задачам імпэрыялістычнай Германіі.

Спалох перад тым, каб якім-небудзь чынам ня выкрыць сапраўдны клясавы характар капіталістычнага друку асабліва выяўляецца на міжнародных конфэрэнцыях друку, якія час ад часу склікаюцца Лігай Нацый ці Міжнародным аб'яднаньнем журналістаў. Улетку 1927 г. у Жэнэве адбывалася Міжнародная конфэрэнцыя друку, на якой між іншым абгаварвалася пытаньне адносна цэнзуры. У сувязі з гэтым пунктам на конфэрэнцыі быў наступны характэрны эпізод.

Вэнгерскі дэлегат, гаворачы аб лютасьці румынскай цэнзуры, зазначыў, што вэнгерскія газэты зусім недапускаюцца ў Румынію, што былі выпадкі, калі нават конфіскаваліся экзэмпляры газэт, адрасаваныя румынскаму каралю. Пасьля гэтага старшыня выказаў жаль з прычыны таго, што „палітыка атуманіла ясны небасхіл конфэрэнцыі" і папрасіў у будучым не гаварыць аб умовах існуючых у „асобных краінах".

І зусім зразумела тактыка гэтага старшыні.

— Навошта бруд з хаты выносіць. Калі Румынія гэта робіць, значыцца ёй гэтак лепш...

Ці было што дзіўнага ў тым, што адміністрацыя звольніла старэйшага газэтнага работніка Брауна Хэйвуда і ніводзін газэтны колектыў не протэставаў супроць гэтага?

Толькі орган комуністычнай партыі „Дэйдзі Уортэр" належным чынам ацаніў гэты адважны ўчынак зусім чужога рэволюцыі чалавека. „Дэйдзі Уортэр" пісала:

„Хэйвуд Браун ня можа разумець, што свабода друку, свабода слова і свабода сходаў, нават пры самых „лібэральных" капіталістычных урадах, азначае вельмі мала. Кляса капіталістаў валодае буйнейшымі газэтамі ў сьвеце і, маркуючыся сваімі інтарэсамі, дыктуе іх з месц; гэтая кляса трымае ў сваіх руках месцы масавых сходаў, контролюе радыё, тэлефон, тэлеграф, кіно і інш. Іх друк—гэта клясавы друк. Мы, комуністы, як прыдзем да ўлады, таксама створым свой клясавы друк і, зразумела, не дазволім, каб чужыя людзі са старонак нашых газэт пропагандавалі-б контррэволюцыю. У эпоху клясавага змаганьня, свабода друку—рэч, якую ня можна ажыцьцявіць. Яна народзіцца толькі тады, як спыніць свае існаваньне клясавая „грамада".



# ЗАКОН СУПРАЦІЎЛЕНЬНЯ...

Нарыс ЯЗЭПА ДОРСКАГА.

I

Мы з ім разам вышлі з вытворчай нарады мэханічнага цэху заводу „Д. А.". Ён мяне засыпаў пытаньнямі і я адчуваў, што гэта ня тое. Я ведаў, што ён мяне хоча запытацца аб чымсьці, што хвалюе яго думкі; аб чым ён скора запытаецца, але што зрабіць усё не адважваецца.

І я не памыліўся.

Калі мы вышлі на шырокую вуліцу і сьвятло ад электрычнасьці ліхтароў залатымі тонкімі істужкамі перапляліся ў нашых вачох. Сьляпян нарэшце, адважыўся:

— Ну, добра. Сёньня на вытворчай нарадзе мы абгаварылі важнае пытаньне. Мы павінны зрабіць ангельцам дзьверы з конуснымі дзіркамі. Так яны захацелі. Яны кажуць, каб былі мацней. Але яны ведаюць, што нам гэта цяжка будзе зрабіць, бо нават у Германіі гэта робяць дрэнна. Яны як-бы кажуць нам „слабо", а мы, як тыя дурні, ірвемся ды яшчэ будзем намагацца, каб зрабіць гэта ім. А потым яны будуць сьмяяцца і казаць ангельскім рабочым:—во, глядзеце, яны ўсё зробяць, што нам трэба будзе, яны нават залатое яблычка з неба для нас дастануць, глядзеце, якія хаты мы для сябе будуем, а гэтыя дзьверы нас схаваюць ад вашых палак.

Я ня мог болей маўчаць. Пачуцьцё пролетарскай солідарнасьці ў майго таварыша пераходзіла якісьці кант, на другім баку якога яно станавілася хваравітым і нават шкодным.

— Пачакай, я табе хачу адказаць. Гэта справа—ня справа грошай, гэта справа нашага прэстыжу. Мы ім дакажам, што мы робім тое, чаго зрабіць ня можа Германія, за гэтыя дзьверы мы атрымаем варштаты, трактары, комбайны. Ты кажаш, што яны будуць яшчэ хавацца за нашымі дзьвярмі ў часе забастоўкі, але ты забыў, што палка мае два канцы. Ангельцы добра танцуюць чарльстон, добра п'юць лікёр, але дрэнна (для сябе саміх) вядуць політыку. Гэтыя дзьверы могуць быць і добрым матэрыялам для барыкад.

— Як ты кажаш, для барыкад?

І ўпяршыню за ўвесь вечар я ўбачыў у вачох Сьляпяна ўсьмешку, якая нараджае радасьць, якая змывае трывогу.

II

Да канца конкурсу на прыстасаваньне для фрэзэрнага варштату для сьвідраваньня конусных дзірак у экспортных дзьвярох засталося пяць дзён. Мала хто на заводзе думаў аб гэтым. Ведалі.

Выдатныя чужаземцы прыбываюць з Германіі. Працаваць з імі дрэнна. Яны даюць семдзесят, а то восемдзесят і дзевяноста процантаў браку, а каштуе гэта замежнае прыстасаваньне стольki, што і ня варта яго купляць.

Інакш на гэтую рэч глядзеў Сьляпян.

Калі нямецкае прыстасаваньне выпускае восемдзесят—дзевяноста процантаў браку, то трэба ў Беларусі зрабіць такое, якое-б не давала браку, а калі яно ў Германіі каштуе шмат грошай, дык трэба зрабіць, каб у СССР яно каштавала таней.

Гэтая думка цяжкімі каменьнямі варушылася ў яго галаве. Часамі яна сваволіла ветрам. Шалясьцела лісткамі слоў, кволымі галінкамі дагадак. Але з кожным часам дагадкі рабіліся больш сьмелыя, думкі больш настойлівымі. Толькі напружнасьць скавала іх цяжкім ланцугом.

— Але Германія... Ангельшчына... у СССР зусім няма... валюта... О! Ня так лёгка я табе здамся, глухая трывога. Ня так лёгка спыніць думкі рабочага сьлесара Сьляпяна.

І нарэшце, калі дванаццатая ноч чорным ценем лягла пад вачыма, Сьляпян знайшоў сакрэт. Маленькае кола па-здрадніцку глядзела з чарцяжу. Яго месца было на пяць сантымэтраў вышэй. Апошняя перашкода перамажана. Зараз павінна быць усё добра.

III

Сьляпян панёс чарцёж у бюро рабочага вынаходніцтва. Павуцінай простых быў перакрэсьлены белы аркуш паперы. Але большая частка геомэтрыі вынаходніцтва і альгебры перамогі была напісана па шэрай тканіне зусім ня шэрых мазгоў, рукою сьвядомасьці і алоўкам пролетарскай настойлівасьці.

Слухалі Сьляпяна на бюро рабочага вынаходніцтва. Зрок путаўся ў кароценькіх і даўгіх рысках, шукалі на аркушы паперы сакрэт перамогі, шукаў і Рубін—дырэктар па рабочых прапановах, хацелася яму паверыць у перамогу Сьляпяна... у сваю перамогу, але хто яго ведае.

І слова бярэ „жрэц тэхнікі".

— Вы, таварыш Сьляпян, усё добра зрабілі, але... Але, вы, таварыш Сьляпян, забылі, забылі закон супраціўленьня, формулу адхіленьня і таму... і таму ваша вынаходніцтва—не вынаходніцтва.

— Я-а-к?

Рабочы Сьляпян не забыў формулу супраціўленьня і закону адхіленьня, ці як там, наадварот, закон супраціўленьня і формула адхіленьня. Ён іх ня ведаў зусім, як ня ведалі гэтых формулаў і законаў астатнія члены бюро рабочага вынаходніцтва, апроч інжынэра. Але глыбока ў сябе ён адчуваў, што на гэты раз гэтыя законы і формулы ніякага значэньня ня маюць.

— Дык як, не рабіць мне па гэтым чарцяжу конструкцыю, нічога ня выйдзе?

— Не...

І на Сьляпяна глянула ўсьмешка з-пад выцертай форменкі інжынэра Басістава.

— Але, таварышы, нельга-ж так,—крычаў дырэктар па рабочых прапановах. Ён размахваў рукамі.—Чалавека адразу асадзіць, хай робіць конструкцыю, мо' таварыш інжынэр памыляецца.

— Не, упэўнены.

— Ну, вы будзьце сабе ўпэўнены, а я таксама ўпэўнены. Я буду рабіць конструкцыю.

Слухалі рабочыя аб вынаходніцтве Сьляпяна,

Слухалі... і...

Ухвалілі: мотывы інжынэра Басістава. Прымаючы пад увагу тое, што Сьляпян пры сваім вынаходніцтве не рабіў яго на падставе формулы супраціўленьня і закону адхіленьня, а гэта галоўны момант у гэтай конструкцыі,—вынаходніцтва Сьляпяна адхіліць.

IV

— Ну, як?—пыталі рабочыя Сьляпяна, нічога ня выйшла.— У словах было спачуваньне і жаласьць і гэта востраю боль лю адгукалася на нэрвах Сьляпяна.

— Нічога ня выйшла, дык выйдзе,—і, прымаючы ўпэўныя словы Сьляпяна за нежаданьне паказаць перад усімі сваю слабасьць, адыходзілі ад яго.

— У Германіі не зрабілі, дык ён зробіць, эх, сьмешна!

Сьляпяну было не да гэтага, калі яму напаміналі Германію, ён казаў:—не заўсёды нам у Германіі вучыцца, можа яна калі і ў нас павучыцца.

І ізноў бяссонныя ночы. Ужо не з алоўкам і паперай, а напільнікам, пласкагубцамі, малаткамі, шрубікамі. Два тыдні



**Рабочы вынаходца т. Сьляпян.**

начаваў Сьляпян на заводзе. Дома ня было прыстасаваньня. Чатырнаццаць начэй пiлiў, рэзаў, падтачваў. Вочы ад бяссоньня пачырванелі. А калі цяжка рабілася працаваць, ён успамінаў знаёмыя словы: „Мы адліваем сталь упартасьці паходаў, жаданая вярста маячыць сонца ўсходам"...

Але вось і апошняя пласьціна зроблена. Конструкцыя гатова. Ланцуг тэхнічных тайн і конструкцыйных сакрэтаў быў пераможаны. Трэба было толькі прыставіць адзін патрон. Пайшоў прасіць патрон у старшага электраманцёра, а той:

— Басістаў казаў нічога не даваць.

— Дай яму,—гукнуў машыніст Палаў, які пры гэтым стаяў.

— Трэба слухаць інжынэра і трэба самому галаву мець,— крыкнуў нехта з вугла.

V

Дырэктар па рабочых прапановах хвалюецца. Ён размахвае рукамі, хоча каб яны дапамаглі яму растлумачыць сэнс справы... Камісія РСІ з цікавасьцю наглядае, як падымаюцца ланцужныя нажы і вострым бокам праразаюць конус у сухой сасновай дошцы.

— Колькі?

— Дзевяноста мілімэтраў—верх, 70—ніз, 120—бакі

— Яшчэ адну.

— Таксама.

— Яшчэ?

— Таксама.

— Колькі павінна быць?

— 90 мілімэтраў верх, 70 ніз, 120 бакі.

— Правільна.

Лёгкаю дымкай праплывае ў вачох Сьляпяна радасьць.

— Таварыш Сьляпян, перамога за вамі. Ваша конструкцыя дае абсолютную дакладнасьць. Яна ў шмат разоў таней і лепш нямецкай. Таварыш Сьляпян, ты са сваёй конструкцыяй перамог супраціўленьне дрэва і сваёй працай супраціўленьне інжынэра Басістава. Мы больш ня будзем траціць валюту, каб выпісваць яе з Германіі. У бліжэйшыя дні ты атрымаеш мандат на перамогу.

— Але ў чым сэнс. Я хачу ведаць у чым сэнс формулы супраціўленьня?

— Аб гэтым мы скажам у сваіх вывадах.

Палка мае два канцы. Формула супраціўленьня мае два трактаваньні.

вузорным тэхнічным прадпрыемствам, наш аўтозавод узьніме на больш высокі тэхнічны ўзровень цэлы шэраг падсобных вытворчасьцяй, якія зьвязаны з будаўніцтвам аўтомобіляў: арматура, гума, скура, шкло, якасная сталь, інструмэнтальная справа і інш.

1 кастрычніка 1931 году конвээр аўтомобільнага волату павінен выпусьціць першую сэрыю аўтомобіляй. Гэты тэрмін абавязковы, ня гледзячы на тое, што ўсяго толькі 1 мая 1930 г. завод толькі пачалі будаваць. Соцыялістычнае спаборніцтва і энтузіязм, з якім працуюць будаўнікі заводу, гарантуюць, што заданьне ўраду аб своечасовым пуску заводу будзе выканана. Можна прывесьці хоць-бы такі факт. У лістападзе мінулага году напярэдадні спыненьня навігацыі, у гавані аўтазаводу засталося 13 неразгружаных баржаў. Толькі захады тэрміновага характару маглі-б выратаваць каштоўныя матэрыялы, якія знаходзіліся на гэтых баржах. І вось па закліку партыйнай організацыі, вышла на разгрузку гэтых баржаў палова ўсіх будаўнікоў аўтазаводу. За адну ноч усе 13 барж былі разгружаны—будаўнічыя матэрыялы былі выратаваны.

Харкаўскі трактарны волат—гэта адзін з тых 518 заводаў, якія сёлета ўваходзяць у строй соцыялістычнай індустрыі. 1 ліпеня 1931 году—у першы месяц трэцяга кварталу на палі колгасаў і саўгасаў будуць выпушчаны трактары соцыялістычнага волату, яны створаць нам не адзін дзесятак машына-трактарных станцый з тых 1040, якія організаваны будуць у трэцім рашаючым годзе пяцігодкі.

Мы вучымся ня толькі на чужой, але і на сваёй практыцы. І будуючы наш другі трактарны завод, мы едзем вучыцца ня толькі ў Амэрыку, але і ў наш Сталінград. Будаўнікі харкаўскага трактарнага добра вывучылі памылкі сталінградзкага трактарнага заводу. Харкаўскі трактарны будзе пабудаваны на тры месяцы раней, і прытым, будзе каштаваць прыблізна на 20 проц. танней сталінградзкага.

Харкаўскі трактарны будуецца ў гушчыні чорназемнай палосы. Ён вырасьце ў тым раёне, які ўсё больш і больш ахопліваецца колектывізацыяй. Вось чаму асабліва зразумела значэньне гэтага заводу.

Новых 50 тысяч трактароў рыхтуецца даць Харкаўскі завод. Ён будуецца па цьвёрдым пляне з тым энтузіязмам, які загартаваў ня толькі непасрэдных будаўнікоў заводу, але і харкаўскіх рабочых, пролетарскіх студэнтаў і чырвонаармейцаў. У выходныя дні бязупынна рухаюцца сюды натоўпы добраахвотнікаў, каб дапамагчы стварыць завод, як павінен працерабіць шырокі соцыялістычны шлях па чорназему украінскай савецкай вёскі.

Самы вялікі асноўны цэх заводу—мэханічна - зборачны, ёмкасьцю ў 1.000 тысяч кубічных мэтраў, быў пабудаваны ў 67 дзён, на дваццаць дзён раней таго жорсткага каляндарнага пляну, які быў распрацаваны кіраўніцтвам.

Насустрач бальшавіцкай вясьне чацьвертага году пяцігодкі Саратаўскі завод па будаўніцтве комбайнаў выпусьціць 4.000 сталёвых змагароў за індустрыялізацыю, за соцыялістычную пераробку сельскае гаспадаркі. Першая чарга будаўніцтва комбайнаў дасьць 15.000 комбайнаў у год, а другая 20.000. Гэтыя комбайны будуць абслугоўваць магутныя збожжавыя раёны Ніжняй і Сярэдняй Волгі.

Поруч з заводамі ўзьнікаюць новыя соцыялістычныя гарады. Новы Магнітагорск, новы горад каля Харкаўскага трактарнага, ля Уральскага і Краматорскага машынабудаўнічых заводаў, ля Кузьнецкага заводу, ля Бобрыкаўскіх х-мічных заводаў, якія пачнуць працаваць у апошнім квартале трэцяга году пяцігодкі.

Вялізарны рост здабычы вугалю, нафты, торфу, моцны ўздым у галіне горнай і каляровай мэталюргіі, такі самы магутны рост продукцыі ў машынабудаўнічай і аўтатрактарнай вытворчасьці, у энэргетычнай гаспадарцы, у хэмічнай прамысловасьці,—вось што дае нам 1931 год і што зьявіцца магутным падмуркам для новай соцыялістычнай эканомікі, што зьявіцца надзейнай базай для сканчэньня перабудовы сельскае гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва, як клясы на падставе суцэльнае калектывізацыі.

У выніку дружнай, самаадданай, самаахвярнай і героічнай працы мы атрымаем у 1931 годзе 518 новых буйных прадпрыемстваў. Сярод гэтых 518 мы маем:

— 95 новых буйных і сярэдніх шахтаў.

— Звыш 20 новых нафтапераапрацоўваючых установак.

— 12 новых домнаў,

— 34 новых мартэнаў.

Часткова першымі і другімі „чаргамі" пачынаюць працаваць восем буйнейшых новых заводаў па каляровай мэталюргіі.

30 новых буйных машынабудаўнічых заводаў.

4 новых заводы сельскагаспадарчага машынабудаўніцтва, у тым ліку магутны саратаўскі завод комбайнаў з прадукцыяй на 126 мільёнаў рублёў і на такую самую суму дасьць продукцыі Растоўскі завод комбайнаў.

Тры новых волаты аўтатрактарнага будаўніцтва: Харкаўскі трактарны, матутнасьцю ў 50 тысяч трактараў у год, Ніжагародзкі аўтомобільны, які дасьць 140 тысяч аўтомобіляй і завод АМО ў Маскве, які перабудоўваецца для таго, каб даць 25 тысяч аўтомобіляй у год.

На Магнітагорску і Кузьнецкім будаўніцтве будуць запалены першыя домны.

Будаўнічая прамысловасьць атрымае 144 новых заводаў.

Дзесяць буйнейшых хэмічных комбінатаў, кожны з якіх налічвае па дзесятку, па некалькіх дзесяткаў новых заводаў і фабрык, пачнуць працаваць у 1931 г.

У шэрагі соцыялістычных прадпрыемстваў уваходзяць волаты, волаты гэткіх памераў, якіх ня мае капіталістычны сьвет, і які ўвачавідкі бачыць, што мы сапраўды даганяем і пераганяем тэхнічна перадавыя капіталістычныя краіны.

# СЫМБОЛІ БУЙНОГА ЎЗРОСТУ

## СЬЦЯПАН ЛІХАДЗІЕЎСКІ.

З медзі зробленае сонца
ад сьнягоў не адамкнула
пульхных, тлустых чорназёмаў.
І марозіць сакавік.

Глуш лясная, глуш нямая.
Воўкам блудзіць запусьценьне
пад спакойны шум вяршалін.
Пахне дрэвам і смалой.

Толькі ноч спакой парушыць,
ўзьняўшы чырвань сэмафораў,
сыпане дажджом трывогі,
перастукам цягнікоў.

І тады па сьлізкіх рэйках
і тады па гладкіх шпалах
грамыхае маладая
бальшавіцкая вясна.

Ёй ня шчоўкаюць салоўкі
мандалінных дробных трэляў
у расквечаных дубровах,
у раскудраных садох.

На змарожаныя глыбы,
на збрасьнелыя аблоны
армію стальных ваякаў
з рупнасьцю яна вядзе.

Яна садзіць тых ваякаў
на шырокія пляцформы,
яна грузіць у вагоны
тых адважных малайцоў.

Іх вядзе яна на фронты
у рашуча дальні наступ
з перакопскаю адвагай
і з будзённаўскім агнём.

Ня ў крыві сьляды паходаў,
ня ў мільёнах чорствых трупаў,
не ў кавалкак мяса, нэрваў
гэтай арміі сьляды.

Прашумяць у цёплы травень
ячмянёвыя палеткі
і аўсяныя загоны
сакавітым дыванам,

дыванам шаўковых руняй,
сымболем буйнага ўзросту,
вястуном тых рэволюцый,
што бушуюць на зямлі.



# ДЗЕСЯЦІГОДЗЬДЗЕ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ВАНДРОЎНАГА ТЭАТРУ

Тэатр, юбілей якога сьвяткуем сёньня, організаваўся тады, калі Беларусь была вызвалена ад белапалякаў, г. зн. з пачатку жніўня 1920 г. Працаўнікі ў тэатры пераважна былі рабочыя фабрык, студэнты БДУ. Організатарам тэатру быў народны артыст БССР Уладыслаў Галубок.

1920 і 1921 гг. трупа працавала ў Менску, а з пачатку 1922 г. стала наведваць клюбы па ваколіцах гораду. Ня маючы ні будынку для рэпэтыцый, ні месца для схову рэквізыту і вопратак, трупа спатыкала вялікія перашкоды ў працы, але перамагаючы ўсё—бачым у 1921 г. 176, у 1922—115, у 1923—158, у 1924—228 паказаў.

Кожны дзень паказ у новым месцы гораду, кожны дзень артыст саматугам цягне за сабою належны да паказу рэквізыт.

У часы ваеннага камунізму, калі праз горад ня можна было пранесьці клумак, артысты вандроўнай трупы ішлі з вузламі спакойна, бо іх ведалі міліцыянэры і называлі іх артыст з вузлом.

У 1925 г. трупа зьбіраецца з сіламі і робіць спробы ад'ехаць у вялікае падарожжа па абслугоўваньні Мазырскай і Барысаўскай акруг, працуючы некалькі месяцаў сярод рабочых фабрык і сялянскай беднаты, і з добрымі вынікамі вяртаецца ў Менск (232 спэктаклі).

За гэта трупе вызначаецца дапамога ад НКА—5.000 руб. у год. Але дапамога вельмі мізэрная і пры разьмеркаваньні вышла працаўнікам на 10 і 5 руб. у месяц.

У 1926 г. трупа накіроўваецца на далучаную да Беларусі Гомельшчыну, і, ня гледзячы на ўсе перашкоды з боку паасобных расійскіх шовіністаў, працуе 6 месяцаў пераважна на фабрыках і заводах Добруша, Новабеліцы, Гомелю, Рэчыцы, Новазыбкава і Клінцах і знаходзіць нязвычайна добрыя адносіны ад рабочых (228 спэктакляў).

У 1926 г. у НКА паўстае пытаньне даць трупе другую назву: Беларускі Дзяржаўны Вандроўны Тэатр. Сам тагочасны НКА Баліцкі быў супроць зацьверджаньня новай назвы, але пастановай колегіі новая назва ўхваляецца.

Тэатр да 1930 г. недастаткова быў дагледжаны з боку НКА. Яму штогод давалі мізэрную грашовую дапамогу.

З году ў год, з акругі ў акругу, перамагаючы ўсе цяжкасьці, тэатр вандруе па ваколіцах БССР і набывае вялікую популярнасьць, і асабліва паміж працоўных. Асаблівую каштоўную працу правёў вандроўны тэатр у пэрыод рэконструкцыі вёскі, калі ў 1930 г. вясной выпраўляецца ў вялікае падарожжа па абслугоўваньні колгасаў (203 спэктаклі).

26 колгасаў Магілеўшчыны і Віцебшчыны бачаць дзяржаўны тэатр, 30.000 колгасьнікаў прысутнічаюць на спэктаклях.

Калі зрабіць падлік працы тэатру за 10 год, дык неабходна сказаць, што ў разьвіцьці яго былі 2 пэрыоды. Першы пэрыод ад часу яго організацыі да рэконструкцыйнага пэрыоду, г. зн. да 1928 г. і другі: пэрыод разьвіцьця тэатру, як актыўнага ўдзельніка соцыялістычнага будаўніцтва.

Падзел 10-гадовай працы тэатру на два пэрыоды можна даказаць яшчэ тым, што рэ-



К. Быліч



А. Згіроўскі



Н. Сакалоўскі



...разэр. Гірш Лекерт.

# ВАНДРОУНАМУ ТЭАТРУ ПАД КІРАУНІЦТВАМ ГАЛУБКА.

Вітаю шчыра тых,
Вітаю сэрцам тых,
Хто нёс і ня прыстаў
На мускулах сваіх,
На нэрвах на сваіх
Сьвятло вялікіх спраў.

Цяжкая справа быць,
Адказны момант быць,
З акцёрскай зброяй слоў,
Дзе побыту глядзіц,
Дзе з покуту глядзіць,
Паганскі дым вякоў.

Туды, дзе цень хрыста,
Прадажнага хрыста
Стуліўся ў чорны змрок,
Ты нёс і ня прыстаў
Сьвятло вялікіх спраў,
Таварыш Галубок.

За крок за кожны твой,
За рух за кожны твой,
У наш, у творчы час,
Вялікай грамадой
Магутнай грамадой
Падзякуе колгас.

Ён вас, хто заўжды з ім,
Ён вас, хто шчыльна з ім,
Як лепшых дарагіх,
На покуце сваім
Ды за сталом сваім
Прытуліць шчыра ўсіх.

І будзе частаваць
І будзе шанаваць
Заўсёды вас колгас,
Ды шчыра працаваць,
Ударна працаваць
Вам дасьць наказ.

Т. Кляшторны.

...ар тэатру да 1928 г. зьяўляўся рэпэртуарам недастаткова ...егічна вытрыманым, рэпэртуарам, які ня выхоўваў рабо... гледача для барацьбы з капіталістычнымі элемэнтамі ў ... краіне, і таму першы пэрыод, гэта пэрыод шуканьня ... і мастацкага твару тэатру.

...угі пэрыод, гэта пэрыод рэконструкцыі ў самым тэатры, ...д пераключэньня тэатру на новыя рэйкі.

...олёгічна вытрыманымі мастацкімі п'есамі: „Ярасьць", ...атура", „Гальштук" тэатр уключан у рады культурных адзінак, якімі выхоўваюць новую псыхолёгію для барацьбы за соцыялістычную грамадзкасьць. Другі пэрыод, малюючы мастацкі рост колектыву, высоўвае кадры кваліфікаваных артыстаў, якія цесна зьвязаны з абслугоўваньнем рабочага гледача ў тэатры і на прадпрыемствах.

Вось гэткім балянсам Беларускі дзяржаўны вандроўны тэатр пераходзіць на 11 год культурна-політычнай працы.

В. Пронін.

А. Качынская



В. Дзедзюшка



А. Амбражэвіч.



# НА ХВАЛЯХ КАПІТАЛІСТЫЧНАГА СЬВЕТУ

### „Як толькі трава паказваецца з-пад сьнегу“

Часопіс „Пшэлом“—орган так званых „левых“ і пілсудчыкаў выдрукаваў надзвычайна цікавы артыкул, які цалкам пацьвярджае славутыя артыкулы эндэка Рамана Дмоўскага адносна антысавецкіх махінацый, завадыяшам якіх павінна зьявіцца польская дзяржава.

„Амаль штогод,—піша „Пшэлом“,—ледзь толькі трава пачынае выглядваць з-пад веснавога сьнегу, адмірэючы капіталістычны сьвет пакрываецца румянцам „ваеннага натхненьня“, разьлічанага на пагібель нашага нянадта прыемнага, усходняга суседа. Штогод увесну, ў некаторых мазгох прабуджаюцца пляны „інтэрвэнцыі“, якая згодна гарачых пажаданьняў усёй міжнароднай фінансавай зграі павінна абавязкова пасадзіць у Крамлі Кірыла. У некаторых цэнтрах Эўропы думаюць аб тым, каб у адзін цудоўны дзень запаліць пажар на нашай усходняй мяжы“.

Далей „Пшэлом“ выкрывае ролю панэўропэйскага руху, як заслоны для інтэрвэнцыялістычных плянаў і даводзіць, што гэтыя пляны падтрымліваюцца магутнымі біржавымі коламі з дэтэрдынгаўскім нафтавым концэрнам на чале.



Загніваючы капіталізм сенсацыяй імкнецца адцягнуць увагу пролетарыяту ад клясавай барацьбы. Перад палётам Нобіле на паўночны полюс быў зроблен спэцыяльны крыж, які павінен быў быць скінуты на паўночным полюсе. На здымку: „Асьвянцэньне“ папскай камарыльляй крыжу ў прысутнасьці афіцыйнай улады.

„Пшэлом“ высьмейвае ўсіх, хто патрабуе, каб Польшча была „апорай цывілізацыі“ супроць Савецкага Саюзу і піша „хоць гэта і можа каму здавацца консэнсам, але соцыялістычная Расія зьяўляецца ў сто разоў больш „заходняй“, чымся „старарэжымная Расія“.

„Пшэлом“ даводзіць, што для ўсіх, хто ня хоча паўтараць сьмешныя „шаблёны“, ясна, што індустрыялізацыя, тэхнічны і культурны прогрэс шпарка зьнішчаюць у СССР сьляды ранейшай царскай адсталасьці.

Праўда, часопіс лічыць патрэбным заспакоіць польскага чытача, што ён „ня мае намеру ўзяць пад сваю абарону СССР“, але ён рэзка асуджае інтэрвэнцыяністаў з пункту погляду польскай „вялікадзяржаўнасьці“, якая, па словах часопісу „не дазволіць больш ахвяраваць аніводным палякам у мундзіры, ніводным верхнясылезкім гарняком для авантуры анонімных конквістадараў і кондоцьераў“.

Бязумоўна, гэтыя „левыя“ сказы маюць галоўнай сваёй мэтай ашукаць пільнасьць працоўных мас. І толькі. Але яны даволі характэрныя для некаторых колаў пілсудчыкаў, якія разумеюць, што і яны павінны апранацца ў маску прыхільнасьці да СССР, каб ня страціць рэшткі свайго аўторытэту нават сярод буржуазіі.

### Крызіс перавытворчасьці... хлусьня

Мы ведаем ужо даўно пра існаваньне за мяжой фабрык па вытворчасьці фальшывых дакумантаў, маны і хлусьні пра СССР, каб адурачваць імі працоўныя масы ўсяго сьвету. Гэткія фабрыкі існуюць у Рызе, Бэрліну, Нью-Ёрку, а ў апошнія часы, гэтай справай пачалі займацца былыя міністры цьвёрдалобага ўраду яго вялікасьці ангельскага караля.

Але сусьветны гаспадарчы крызіс не мінаваў і гэтую галіну вытворчасьці. Усякага роду паказаньні сьведак, прысягі, апавяданьні аб жахлівым жыцьці ў СССР настолькі запрудзілі капіталістычны сьвет, што і тут, відаць, адчуваецца вялікая перавытворчасьць.

Гэтымі днямі адна з гэткага роду фабрык разаслала газэтам такі абежнік:

„Прапановы засьведчаных пад прысягай паказаньняў ад зьняволеных, якія ўцяклі з СССР, паступаюць з Англіі, Фінляндыі, Польшчы і іншых краін. Большасьць гэтых дакумантаў фальшывыя і мы папярэджваем палітычных дзеячоў і дзелавых асоб Брытаніі ўстрымацца ад пакупкі. Дырэкцыя агенцтва дасьледвала нядаўна значную колькасьць такіх дакумантаў і выкрыла іх непраўдзівасьць і хлусьлівасьць“.

Бязумоўна, што тут справа ня ў тым, каб, барані божа, ня траціць грошы на фальшывыя дакуманты. Не, не пра гэта турбуецца агенцтва. Сваім абежнікам яно напамінае, што фабрыкацыі іхняй вытворчасьці куды лепшыя і больш пэўныя, вось таму купляйце ня ў іх, а ў нас, нашы лепшыя.

Звычайная гандлёвая рэклама: купляюць, працаюць—хлусьню, ману, ашуканства.

### Мільёны патрабуюць хлеба

Амэрыканскі міністр гандлю Лямонт прызнаў, што ў ПАЗШ восем мільёнаў беспрацоўных. Аднак, славуты экономіст профэсар Урвін Фішэр на падставе ўрадавых статыстычных вестак устанавіў, што ў канцы сакавіка беспрацоўных было больш дзесяці мільёнаў.

Адсутнасьць якіх-небудзь пэрспэктыў на паляпшэньне продукцыі асноўных галін прамысловасьці, а таксама сельскагаспадарчы крызіс, які ўсё больш абвастраецца, няўхільна вядуць да далейшага разьвіцьця агульнаэкономічнага крызісу.

У канцы лютага гэтага году агульны экономічны крызіс у ПАЗШ дасягаў самага нізкага ўзроўню за ўвесь час цяперашняга крызісу і складаў 76,9 супроць 95,3 у канцы лютага 1930 году.

Аўтомобільная продукцыя ў першыя два месяцы 1931 г. складала ўсяго 391 тысячу машын супроць 603 тысяч машын тых самых месяцаў 1930 г. і 867 тысяч машын у 1929 годзе.

Паліцэйскія дубінкі Цэргібеляй і Зеверынгаў ня спыняць узрастаньня рэвалюцыйных хваляў. Ня гледзячы на жорсткія меры прыдушэньня,—дэмонстрацыі ў міжнародны дзень барацьбы з беспрацоўем ахапілі галоўнейшыя гарады ўсяго сьвету. На здымку: маракі і партавыя рабочыя Гамбурга зьбіраюцца ў калёны для дэмонстрацыі.



Паглыбленьне экономічнага крызісу выявілася таксама ў новай хвалі банкруцтва, у зьмяншэньні падатковых паступленьняў і ў значнай дэфіцытнасьці бюджэту. Студзень 1931 г. даў рэкордную колькасьць банкруцтваў. Збанкрутавалі 3.316 прадпрыемстваў з пасывам у 94,6 мільёнаў даляраў. З прычыны слабога паступленьня падаткаў, якія ў сакавіку зьменшыліся на 40 проц., у параўнаньні з сакавіком 1930 г., па думцы ўрадавых экспэртаў, дэфіцыт бюджэту складзе 200 мільёнаў даляраў.

Выданьне Беларускага Дзярж. Выдавецтва. Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

# Вышлі з друку

Платон Галавач

**СПАЛОХ на ЗАГОНАХ**

АПОВЕСЬЦЬ

179 стар. Цана 75 к.

Пятро Броўка

**ЦЭХАВЫЯ БУДНІ**

ПАЭЗІЯ

55 стар. Цана 60 к.

Зьмітрок Бядуля

**ЯЗЭП КРУШЫНСКІ**

РАМАН

Другое выданьне 416 стар. Цана 2 р. 30 к.

С. Грыгор'еў

**БЭРКА КАНТОНІСТ**

241 стар. Цана 1 руб.

Мікола Хведаровіч

**ТЭМПЫ— КАНТРАСТЫ**

110 стар. Цана 1 р. 25 к.

Мікола Багданаў

**ПЕРШАЯ ДЗЯУЧЫНА**

135 стар. Цана 1 р.

Іоган Бэхэр

**ЛЬЮІЗІТ**

391 стар. Цана 1 р. 75 к.

Васіль Сташэўскі

**КОЙДАНАЎСКАЯ МТС**

46 стар. Цана 15 кап.

Міхась Багун

**РЭХА БУР**

ВЕРШЫ

[illegible] стар. Цана 75 к.

Барыс Мікуліч

**УДАР**

Апавяданьне

110 стар. Цана 70 к.

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 938

Галоўлітбел № 1031